№ 3
Люты 1998

# Права на волю

Бюлетэнь Камітэта ў абарону правоў чалавека ў Беларусі "Вясна—96"



# Між турмой і свабодай

Беларускія ўлады так і не здалелі знайсьці ў сабе сілы, каб прыняць разумнае і адзіна правільнае рашэньне: прызнаць невінаватымі журналістаў ОРТ Паўла Шарамета і Дзьмітрыя Завадзкага, папрасіць у іх прабачэньня і кампенсаваць нанесеныя страты. Улады пайшлі ў сваёй упартай зацятасьці да канца: П. Шарамет і Дз. Завадзкі асуджаныя ўмоўна. Першы — на два гады, другі — на паўтары...

Суд не прыняў у разьлік доказы абароны аб відавочнай невінаватасьці падсудных, а скарыстаў яўна сфальсіфікаваныя дакументы. Ды і што ён, суд, мог зрабіць, калі ў менавіта такім завяршэньні справы быў зацікаўлены сам прэзідэнт. Так, сёньня гэта ні для каго не сакрэт — суд выканаў волю прэзідэнта, які ў сваёй помсьце стаў бязьлітасным, і сьляпым.

Мажлівасьць пераканацца ў гэтым была ва ўсіх. І ў першую чаргу ў расійскага прэзідэнта Барыса Ельцына. За тыя паўгода, якія цягнулася "Справа Шарамета", прынамсі, разоў пяць пасьля "шчырых, сяброўскіх" размоў з Лукашэнкам з вока на вока альбо па тэлефоне, Ельцын абвяшчаў: "З журналістамі ў нас праблемаў няма, Аляксандр Рыгоравіч абяцаў вырашыць гэтае пытаньне..." Але ішоў час а ў Беларусі нічога не зьмянялася. Заставалася толькі здагадвацца, як і чаму церпіць "старэйшы брат" настолькі беспардонныя адносіны да сябе брата "малодшага". Можа быць уся справа ў бясплатным транзіце Расіяй праз Беларусь нафты і газу?...

Аднак і Ельцын раз-пораз нагадваў пра лёс журналістаў. П. Шарамет, у інтэрв'ю пасьля прысуду быў вымушаны адзначыць, што адносна мяккае (абвінаваўца прасіў — трох гадоў пазбаўленьня волі) рашэньне судзьдзі было выклікане найперш нязьменнай цікавасьцю да лёсу журналістаў з боку расійскага прэзідэнта.

Паўгода між турмой і свабодай не прайшлі без пераменаў для Паўла і ягоных сяброў. З пазіцыяў мякка-інтэлігенцкага непрыняцьця метадаў кіраваньня дзяржавай "калгаснага" прэзідэнта, яны перайшлі да жорсткага супрацьстаяньня рэжыму. Словы П. Шарамета: "За свабоду трэба змагацца" сталі нібыта дэвізам для многіх незалежных журналістаў. І яны змагаліся — спачатку за свабоду Паўла Шарамета на мітынгах і ў пікетах, а потым — за дэмакратыю і свабоду слова ў дзяржаве.

"Справа Шарамета" ад пачатку была палітычнай, як ні стараліся ўлады надаць ёй крымінальную афарбоўку. Сваімі сумленнымі,праўдзівымі рэпартажамі зь Беларусі Павел гэтак зачапіў улады, што жаданьне разьлічыцца зь ім было відавочным і напачатку амаль непрыхаваным. Чаго вартае хоць бы тое, што Павел быў арыштаваны празь дзень пасьля выхаду на экраны ягонага рэпартажу з беларуска-летувіскае мяжы за нібыта пераход гэтай мяжы пад час тых самых

(Працяг на стар. 3)

## Хроніка

*На пачатку студзеня* міністэрствам адукацыі ў лісьце намесьніка міністра Г.Дыляна было забароненае вывучэньне ў школе творчасьці беларускіх пісьменьнікаў Н.Арсеньневай, М. Сяднёва, беларускіх эмігрантаў, грамадзянаў ЗША, а таксама паэткі Л.Геніюш, якая, у знак пратэсту супраць анэксіі Беларусі Расіяй, да канца жыцьця так і не ўзяла савецкага грамадзянства.

*У сярэдзіне студзеня* рэдактар віцебскай газеты "Выбар" Б.Хамайда за правядзеньне пікета ў Віцебску атрымаў трое сутак арышту.

*21 студзеня* — у Польшчы вядомаму беларускаму бізьнесмену А.Пупейку, які раней эміграваў з Беларусі і быў затрыманы польскімі ўладамі па патрабаваньню беларускіх уладаў, была зьмененая мера стрыманьня і ён быў выпушчаны пад залог. А.Пупейка зьвярнуўся да польскіх уладаў з просьбаю прадставіць яму палітычны прытулак. Залог за А.Пупейку ўнесла член польскага Хельсінкскага камітэта журналістка Халіна Бартноўска-Дамброўска.

*22 студзеня* — сакратар Управы БНФ В.Сіўчык завочна асуджаны судом Цэнтральнага р-ну г. Менску. Суддзя А.Барысёнак, за ўдзел у шэсьці 23 лістапада 1997 г. прысудзіў штраф у 40 мільёнаў руб. (эквівалент на 1000 даляраў).

*24 студзеня* — кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту і кіраўнік дэмакратычных прафсаюзаў Г.Быкаў наведалі горад Дзятлава, што ў Гродзенскай вобласьці. Іх прыезд сустракала міліцыя, узброеная аўтаматамі. Каля дому, дзе начавалі партыйныя і прафсаюзныя дзеячы на ўсю ноч быў выстаўлены міліцэйскі пост.

(Працяг на стар. 6)

# З 25 жніўня 1997 года — за кратамі!



**Вадзім Лабковіч (16 гадоў) і Аляксей Шыдлоўскі (19 гадоў) пісалі:**

***"Беларусь — наш дом, наш храм", "Мы любім Беларусь", "Беларусь — нашая Бацькаўшчына", "Жыве Беларусь!"***

**За гэта іх пасадзілі ў турму...**



18 лютага ў Менскім абласным судзе пачнецца судовы працэс над Вадзімам Лабковічам і Аляксеем Шыдлоўскім. Палітычным вязьням, якія знаходзяцца ў сьледчым ізалятары ўжо шосты месяц, інкрымінуюцца арт. 186$^2$ Крымінальнага кодэксу — "Зьдзек над дзяржаўнымі сімваламі", арт. 201 ч. 2 — злоснае хуліганства і арт. 225 — "Зьнішчэньне або пашкоджаньне гісторыка-культурных каштоўнасьцяў". Гэтак сьледства кваліфікавала надпісы, зробленыя ў Стоўбцах на сьценах дамоў, а таксама зьняты з даху райвыканкама дзяржаўны сёньня сьцяг і расфарбаваныя помнікі Леніну ды Дзяржынскаму.

Судовыя органы абяцаюць, што слуханьні па справе пройдуць публічна. Што ж, пабачым, ці адважацца на гэта беларускія ўлады. Бо дагэтуль яны ўсяляк імкнуліся замаўчаць той факт, што ў краіне сёньня ёсьць палітзьняволеныя. Можна, вядома, дурыць свой "электарат", называючы антыпрэзідэнцкія надпісы — хуліганствам, і спрабуючы падвесьці гэта пад крымінальную справу. Але ня доўга. Усё болей людзей разумее, што хлопцаў пасадзілі ў турму і трымаюць там за іх сьвядомую барацьбу з рэжымам, хай сабе і выказаную гэткім "хлапечым" чынам. Пра гэта сьведчыць і хваля пратэстаў у падтрымку В. Лабковіча і А. Шыдлоўскага, якая пракацілася па краіне напрыканцы мінулага года і сёлета. Пікеты адбыліся практычна ва ўсіх буйнейшых гарадах. Ведае пра беларускіх палітзьняволеных і сусьветная грамадскасьць. 5 лютага група дэпутатаў ад фракцыі "зялёных" Еўрапарламенту вынесла на разгляд праект рэзалюцыі з патрабаваньнем ад беларускіх уладаў вызваленьня В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага, а таксама В. Кабанчука.

З пачаткам судовага працэсу, думаецца, цікавасьць міжнароднай грамадскасьці да падзеяў у Беларусі павінна ўзрасьці. І ўладам больш ня ўдасца хаваць факты перасьледваньня грамадзян Беларусі ў сваёй краіне па палітычных перакананьнях. Сёлета спаўняецца 50 гадоў з часу прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Кіраўніцтва Беларусі абвясьціла аб тым, што дата гэтая будзе адзначацца ў нас на дзяржаўным узроўні, дзеля чаго быў утвораны "высокі" аргкамітэт на чале з віцэ-прэм'ерам У. Замяталіным. Толькі, пэўна, у Беларусі пад правамі чалавека разумеюцца не правы грамадзянаў краіны, а правы аднаго канкрэтнага чалавека. І мы добра ведаем якога...



*Вадзім Лабковіч зь сябрамі на адным зь мітынгаў.*

# Лісты ў падтрымку палітвязьняў

■

"Мы, вучні сярэдняй школы №95 г. Менску, пратэстуем супраць незаконнага і працяглага ўтрыманьня ў сьледчым ізалятары г. Жодзіна нашага таварыша Лабковіча Вадзіма. Патрабуем неадкладнага разгляду ягонае справы, доказу вінаватасьці ці не вінаватасьці, каб даць магчымасьць закончыць школу у гэтым навучальным годзе.

**Тацьцяна Васільлева,**
**Тацьцяна Сяргеня,**
**Ганна Петрусевіч,**
**Ірына Сушчык,**
**Юры Берастаў**
**Вольга Максімава**
**Вольга Мішур**
**Вольга Кажадуб**
**Натальля Вярцінская**
**і інш., усяго больш за дзевяноста подпісаў вучняў дзевятых-адзінаццатых класаў СШ №95 г. Менску.**

■

"Паважаная спадарыня і спадар Шыдлоўскія!

Чытыючы газеты тут, у Амерыцы, аб тым, што Ваш сын быў арыштаваны, бо браў удзел у дэманстрацыях, мне ў ЗША не прыходзіць да разуменьня, што ў Беларусі пануе не дэмакратычны лад жыцьця. У Амерыцы, калі дэманстранты ёсьць арыштаваны праз суткі іх выпускаюць з турмы, асабліва, калі чалавек у маладым веку.

Я спачуваю Вам у Вашай цяжкай сітуацыі, бо знаю, што бацькі хочуць для свайго сына ўсё каб было найлепей.

У нас часам ёсьць больш права для сабакі, чым у вас для чалавека. У Амерыцы, калі хто ўбачыць, як нехта б'е свайго сабаку, можа заявіць ва ўстанову па ахове зьвяроў і за гэта таму, хто б'е сабаку можна патрапіць у турму, а ў Вас б'юць і плакаць не даюць.

Мне цяжка зразумець, бо я Беларусь пакінуў, калі мне было 13 год (я ўжо за мяжой 54 гады), што ў Беларусі адміністрацыя паводзіць сябе так, як пры савецкай уладзе.

Жадаю Вам пераажыць цяжкую сітуацыю, можа, хто ў адміністрацыі знойдзецца з добрай душою і выпусьцяць Вашага сына.

З добрымі пажаданьнямі

**К. ВЕРАБЕЙ**

*ЗША*

# Хто ж вандалы?

Археолагаў і гісторыкаў не аднойчы зьдзіўлялі сенсацыйныя знаходкі на абшарах былой Рымскай імпэрыі. Які-небудзь "каліф на гадзіну" кіраваў на Капітоліі каля двух месяцаў, перш чым яго забівалі ўзбунтаваныя легіянеры, а мармуровыя партрэты гэтага імпэратара дагэтуль знаходзяць у Далмацыі, Брытаніі, Сірыі. Сакрэт просты. Антычныя заматаліны, ня ведаючы таямніцаў фатаграфіі, арганізавалі магутную сістэму скульптурных майстэрняў. Галовы новага ўладара сыходзілі з канвеера, рассылаліся ўва ўсе канцы і ўсталёўваліся на стандартных мускулістых торсах выявы бога-імператара. Калі ўлада мянялася, даводзілася мяняць толькі галаву.

Нешта падобнае мы назіралі на пачатку гэтага дзесяцігоддзя ў бээсэсэраўскай сатрапіі, якую раптам ахапіла ліхаманка фрагментарных зьменаў. Ідэалагічнае начальства зь мясам выдзірала з агромністых лозунгаў адно слова, замяняла другім і атрымлівалася замест "Слава КПСС" — "Слава Богу". Ад Тыраны да Улан-Батара народы валілі з пастаментаў абрыдлых камуністычных ідалаў. У Беларусі ж упаў толькі адзін, прычым невядома — проста паводле ньютонавага закону або з чыёйсьці дапамогай. Даволі працяглы час мануметальная галава самага вядомага койданаўскага марфініста Ф.Дзяржынскага валялася на зямлі ў мястэчку Стоўбцы, аж покуль "искусствоведы в штатском" не загадалі паставіць яе на месца.

І можна было б пасьмяяцца з руплівасьці выканкамаўскіх эстэтаў. Але адрэстаўраваны боўдзіла працягвае нявечыць жыцьці людзей. У сьнежні мінулага году ўлады дадалі да абвінавачаньняў сябрам "Маладога Фронту" Вадзіму Лабковічу і Аляксею Шыдлоўскаму артыкул "вандалізм". Сапраўды, раней стаўбцоўскага куміра нехта абліваў чырвонай фарбай. Цяпер у гэтым спрабуюць абвінаваціць нашых маладых герояў.

Як і ўва ўсіх дзеяньнях неабальшавікоў, тут ясна назіраюцца дзьве прыкметы — дурасць і цынізм. Яны — паслугачы той самай сістэмы (часта персанальна адказныя за злачынствы перад культурай), якая варварскі зьнішчала помнікі нашай культуры. Адзін з апошніх прыкладаў — разбурэньне гістарычнага будынку чыгуначнага вакзалу ў Менску. Цяпер яны на чале з "праваслаўным атэістам" бароняць антымастацкія помнікі ворагам чалавецтва і Беларусі. Бронзавыя і бетонныя дзяржынскія пад радасныя крыкі моладзі дэмантавалі ў Маскве, ня кажучы ўжо пра Варшаву. Толькі ў нашай краіне, якая так і ня здолела стаць хрысьціянскай, чырвоны сатана і ягоныя паплечнікі пануюць на плошчах і вуліцах...

У лепшым выпадку іхняе мейсца ў экспазіцыях, прысьвечаных змрочнаму перыяду нашай гісторыі. Самое іхняе існаваньне ёсьць акт вандалізму.

**Валеры БУЙВАЛ**



*Яшчэ адзін "жалезны Фелікс — менскі — пільна ўзіраецца, што робіцца там, за вокнамі будынку КДБ. Пад час 80-х угодкаў стварэньня гэтай арганізацыі двое менчукоў паклалі пад бюст вянок з калючага дроту. І былі арыштаваныя... Вокны ня дрэмлюць...*

# Між турмой і свабодай

*(Пачатак на стар. 1)*

здымак. Гэта потым, калі справа набыла непажаданы рэзананс, калі на абарону калегі стала расійскае тэлебачаньне, пачалі шукацца і белымі ніткамі прышывацца да справы нейкія глуханямыя ды іншыя "сьведкі". А напачатку атрымалася так, што П. Шарамет сам "данёс" на сябе. І ўлады, за недахопам іншага, вырашылі скарыстацца гэткім "даносам", каб расправіцца з непадкупным і прынцыповым журналістам...

У выпадку з П. Шараметам беларускія ўлады і прэзідэнт яскрава паказалі ўсяму сьвету сваю сапраўдную сутнасьць, а тым, хто забыў, — што такое на самой справе дыктатура, самаўпраўства і дэспатызм. Але гэты выпадак паказаў і іншае: ёсьць на Беларусі і людзі, якія будуць пасьлядоўна адстойваць прынцыпы дэмакратыі і правы чалавека. У апазіцыі прэзідэнту сёньня ўсе тыя, хто бачыць, думае і прымае рашэньні — незалежна ад палітычных поглядаў і перакананьняў, ад мовы і нацыянальнасьці, ад адукацыі і сацыяльнага становішча. Усе тыя, хто разумее: у краіне, дзе правіць баль беззаконьне і самадурства — нармальна жыць немагчыма.

За свабоду трэба змагацца. Бо ўсе мы сёньня ў гэтай дзяржаве з яскравымі прыкметамі таталітарызму, як і Павел Шарамет — "умоўна асуджаныя" і знаходзімся між турмой і свабодай...

**Андрэй НАЛІВА**

# Паляваньне на праўду

Каля менскай "Камароўкі" ёсьць мейсца, дзе заўсёды можна купіць расейскую апазіцыйную прэсу. "Завтра", "Лимонка", "Правда Жириновского" и проста "Правда"... Стаіць там, ужо на даўно звыклым мейсцы, хлопец і прадае газеткі. Пакупнікоў ня шмат, рэдка хто набывае ў яго нешта, пэўна, дзеля цікавасьці, але важна ня гэта. Важна тое, што яго ніхто ніколі не "ганяў", ніхто яму не забараняў займацца сваёй справай, і міліцыянты, якіх тут заўсёды шмат, праходзяць паўз яго, нібыта не заўважаючы...

Зусім іншая сітуацыя ў беларускай сталіцы з тымі, хто прадае беларускую незалежную прэсу. Размова тут пойдзе не пра нешта забароненае, "падпольнае", а пра зарэгістраваныя ў адпаведнасьці з заканадаўствам выданьні. Жанчыны і мужчыны, якія прадаюць каля падземных пераходаў "Имя", "Народную волю", "Белорусскую деловую газету", ды іншыя выданьні, вымушаныя рабіць гэта з аглядкай, бо любы міліцыянт у кожны момант можа падыйсьці да іх і пацягнуць у пастарунак.

Асабліва абвастрылася сітуацыя з выхадам першага нумара газеты "Навіны" (адноўленай такім чынам "Свабоды"). Міліцыянты наладзілі сапраўднае паляваньне за вулічнымі распаўсюджвальнікамі незалежнай прэсы. У Камітэце ў абарону правоў чалавека "Вясна-96" ляжыць некалькі заяў ад пацярпелых ад міліцыянтаў людзей, якія былі арыштаваныя за продаж незалежных выданьняў. Пра тое, што гэта была сапраўдная наперад спланаваная кампанія, сьведчыць тое, што "захоп" праводзілі не вулічныя паставыя і не дзяжурныя нарады міліцыі, а ўзброеныя аўтаматамі "супрацоўнікі" ў камуфляжнай форме... Прычым "кампаніі" гэтыя паўтараюцца перыядычна. І міліцыянты дзейнічаюць груба, цынічна, не зважаючы на тое, што большасьць прадаўцоў мае дазвол на сваю дзейнасьць і прадае, як мы ўжо казалі ня нейкія там забароненыя выданьні, а дазволеныя...

Незалежныя распаўсюджвальнікі вольнага друку то зьнікаюць зь менскіх вуліц і скрыжаваньняў (адлоўленыя міліцыяй), то зьяўляюцца зноў. Для многіх зь іх гэта ня толькі магчымасьць зарабіць капейку...

**А. ЧАС**

# Пасьля арышту — пасівеў...

***Выпадак, пра які мы раскажам, уражвае сваёй бесчалавечнасьцю — нават на тле той жорсткасьці, зь якою ўсучаснай Беларусі перасьледуецца ўсялякае іншадумства. Праўда, чалавек які ў адзін "цудоўны" дзень раптам ператварыўся ў пацярпелаг, ні іншадумцам, ні тым больш апазіцыянерам ня зьяўляўся.***

...Коля Белацэрковец рос звычайным хлопчыкам. Хаця адразу пасьля ягонага нараджэньня маці, Раісе Пятроўне, урачы паведамілі пра родавую траўму — ушчэмлены нерв, — ніякага ўплыву на здароўе дзіцяці спачатку не назіралася. Пакуль хлопчык не пайшоў у школу. У першым класе высьветлілася, што Колі не паддаецца лічэньне, нават самае простае. Таму неўзабаве ён апынуўся ў сьпецшколе для разумова адсталых дзяцей. І хаця тамтэйшыя настаўнікі зьдзіўляліся: "Што ён тут робіць? Гэта ж зусім нармальнае дзіця!" — лічыць ён так і не навучыўся. Зараз у свае 34 гады Мікалай адчувае сябе бездапаможным, калі трэба падлічыць грошы. Ва ўсім астатнім ягоная разумовая адсталасьць амаль ня бачная.

У той сонечны дзень 34-гадовы Мікалай ішоў па цэнтры Менску і радаваўся вясьне, як гэта здольныя рабіць такія, як ён, сапраўдныя дзеці прыроды. Што падумаў ён, чыё мысьленьне набліжалася да сьветапогляду 12-гадовага дзіцяці, калі, збочыўшы на суседнюю вуліцу, убачыў шмат людзей і мора бел-чырвона-белых сьцягоў? Мажліва, яго прывабіла іх нечаканая прыгажосьць...

Мікалай падыйшоў бліжэй. Тым часам падзеі тут набліжаліся да трагічнай разьвязкі. Зьявіліся закратаваныя машыны і міліцэйскія "уазікі". Сьпецназаўцы пагналі людзей дубінкамі ўглыб двароў. Крыкі, мітусьня, праклёны... Скрыжаваньне хутка апусьцела, а Мікалай так і не зрушыў зь мейсца...

— А ты якога д'ябла тут стаіш? — зароў над вухам хлопца міліцыянт. Мікалай не пасьпеў апамятацца, як яго перацягнулі дубінкай, падхапілі за рукінОгі і злосна шпурнулі ў машыну з разьбітым у вакне шклом... Было 2 красавіка 1997 года.

... Пенсіянерка Раіса Пятроўна не магла і падумаць, што яе старэйшы сын патрапіць на мітынг. Ён мог пайсьці адно на футбольны матч. Міліцыянты ведалі яго, апантанага заўзятара, ў твар і часам, бачачы, што хлопец не зусім нармальны, пускалі яго на футбол без аніякіх квіткоў. Шкадавалі яго футбольныя ахоўнікі... Аднак, калі ні вечарам 2 красавіка, ні ўначы, ні раніцай 3-га Коля дамоў не вярнуўся, маці пачала ўжо думаць пра самае горшае...

Сын прыйшоў недзе каля гадзіны дня. У пакамечаным адзеньні, падтрымліваючы рукамі штаны без папругі, з незвычайным выразам твару. Ён быў у шоку, дрыжэў і ня мог вымавіць ні слова.

На целе сына Раіса Пятроўна ўбачыла вялізныя крывападцёкі.

— Хто цябе біў, сынок?.. Дзе цябе білі, сынок?.. — толькі і вымавіла яна.

— Мама!.. — заплакаў Мікалай, — яны горшыя за звяроў! Страшней за фашыстаў...

На момант затрыманьня Мікалай меў у кішэні пасьведчаньне інваліда II групы. Яно засталося ў Партызанскім РАУС. А маці ён падаў іншы дакумент: пастанову Партызанскага райсуда ад 3. 04. 97 г. Судзьдзя Эла Кузьмянкова палічыла магчымым пакараць Мікалая Белацэркоўца штрафам у памеры 6 500 000 рублёў(адпавядае 400 даляраў). У пастанове суда ягоная віна акрэсьленая наступным чынам: "2. 04. 97 г. в 19.30 на перекрёстке улиц Чичерина-Коммунистическая гр-н Белоцерковец Н. Н. принимал активное участие в несанкционированном собрании, где *публично осуждал и выражал свое недовольствие к действиям президе-та и правительства по вопросам подписания договора с Россией.* (Вылучана мною — **Т. С.**). На законные требования работников милиции прекратить и разойтись не реагировал, чем нарушил требования п.10 Декрета №5 Президента Республики Беларусь".

Тут адразу ўзьнікае некалькі пытаньняў. Па-першае, як мог чалавек, стоячы на апусьцелай вуліцы "прекратить и разойтись"? Па-другое, калі ў міліцыю бяруць людзей хоць крыху знаёмых з айчынным заканадаўствам, дык чаму, прачытаўшы пасьведчаньне інваліда і ведаючы пра хваробу затрыманага, на яго ўвогуле склалі пратакол?Па-трэцяе, як магла судзьдзя Кузьмянкова прыцягнуць да адказнасьці і прысудзіць штраф чалавеку душэўна хвораму — бесьсьвядомаму?

Хутчэй, як бесьсьвядомыя паводзяць сябе ў нашай дзяржаве некаторыя ахоўнікі парадку і служкі Фемiды, гатовыя бяздумна выканаць любы "указ ці дэкрэт". Цяжка перадаць, што адчуваў Мікалай, які ніколі не зрабіў нікому зла, назіраючы зьбіцьцё затрыманых на мітынгу ў пастарунку. Затое ён сустрэў сапраўдных людзей сярод тых, з кім рэжым змагаецца. Да хворага незнаёмага хлопца затрыманыя дэманстранты паставіліся добразычліва, імкнуліся супакоіць яго і нават прымусілі міліцыянтаў пакласьці спаць інваліда не на нарах, а на канапе. "Тыя, каго б'юць і арыштоўваюць на вуліцы — добрыя людзі", — зрабіў натуральную выснову Мікалай.

Дарэчы, наводзячы парадак у дзень мітынгу, у парыве "натхненьня" служкі "парадку" сёе-тое "сачынілі" ў сваіх пратаколах і пра мейсца працы Мікалая Белацэркоўца. У пастанове суда запісана паводле пратакола міліцыі, што ён нібыта працуе паліроўшчыкам на Менскім шарыкападшыпнікавым заводзе. Насамрэч хлопец стаіць на ўліку ў псіханеўралагічным дыспансеры і вырабляе простыя рэчы ў майстэрнях пры вядомых "Навінках". Гэта завецца па-навуковаму працатэрапіяй. Працуе Мікалай добра — прынамсі, ім задаволены і выплочваюць невялікі, але заробак. Для сям'і нават гэтыя грошы (600-700 тысячаў) — значная падтрымка.

Я спытала ў Колевай маці: за які час сям'я змагла б выплаціць прысуджаны Колю штраф? "Калі скласьці ягоны заробак з маёй пенсіяй і нічога не купляць, ня есьці, то спатрэбілася б больш за паўгода", — адказала яна.

...Адразу пасьля вяртаньня сына, маці разам зь ім пайшла ў Партызанскі РАУС, каб высьветліць, што ж на самой справе адбылося. Ля будынку райаддзелу стаяў малады міліцыянт з аўтаматам. Раіса Пятроўна разгаварылася зь ім. Аўтаматчыка звалі Колем. "Як і майго сына, — адзначыла жанчына. — Што ж вы, хлопцы, робіце?" — паўшчувала яна. Коля-міліцыянт апусьціў вочы... Потым гэтаксама будуць хаваць вочы ягоныя калегі па "мітынговаму шмону" і проста па службе ў Партызанскім райаддзеле. Будзе няр-



вова "сьпяшацца", адводзячы позірк, і немаладая ўжо кабета Эла Іванаўна — судзьдзя Кузьмянкова. "Значыць засталося яшчэ ў гэтых людзей сумленьне", — гаварыць цяпер Раіса Пятроўна. А тады, пасьля размоваў у РАУС, па дарозе дадому, ейны сын прызнаўся, што пазнаў таго "Колю-аўтаматчыка" — ён быў сярод тых, што яго "затрымлівалі". Але ў разумова адсталага хлопца хапіла такту не нагадваць цёзку пра ўчарашняе...

Раіса Пятроўна напісала скаргу ў раённую пракуратуру. У выніку пракурорскага пратэсту Партызанскі суд быў вымушаны ў канцы красавіка.адмяніць уласнае рашэньне аб штрафе.

Аднак зыск маці пацярпелага, накіраваны ёю ў Менскі гарадскі суд, застаўся незадаволеным і па гэтую пару.Праўда, удалося высьветліць імёны тых, хто хапаў, зьбіваў Мікалая, спрыяў беззаконьню. Адказчыкамі па зыску Р. П. Белацэрковец зьяўляюцца, акрамя судзьдзі Кузьмянковай, міліцыянты Генадзь Пасюк, Сяргей Аўтухоў, Уладзімір Трушко, Леанід Шчарбакоў. Маці прасіла суд прызнаць іхнія дзеяньні ў дачыненьні да ейнага сына прыніжаючымі гонар і годнасьць, перавышэньнем службовых паўнамоцтваў і спагнаць зь іх за маральныя страты 500 мільёнаў рублёў.

З гарадскога суда Раіса Пятроўна атрымала два адказы. Зьмест першага, дасланага ў траўні, такі: заява-зыск "далучана да матэрыялаў аб парушэньнях Дэкрэта №5" (заўважце, да парушэньняў дэкрэта, а не Канстытуцыі, г. зн. у вінаватых застаўся Мікалай, а не міліцыянты). У другім, чэрвеньскім, адказе гаварылася: дзеля таго, каб заяву, падобную зыску Р. Белацэрковец, суд разгледзеў, патрэбна распаўсюджаньне фактаў прыніжэньня годнасьці праз СМІ. А на іншыя скаргі, не апісаныя журналістамі, суд не рэагуе...

Супрацоўнікі Партызанскага РАУС спачатку таксама спалохаліся, патэлефанавалі, выказалі намер прыехаць да Белацэркоўцаў дамоў для размовы. А калі Раіса Пятроўна наадрэз адмовілася ад гэтага, даслалі ліст: "У ходзе праверкі ўстаноўлена, што супрацоўнікі міліцыі дзейнічалі правамерна. Адміністрацыйны пратакол па п. 10 дэкрэта №5 прэзідэнта РБ у дачыненьні вашага сына складзены абгрунтавана і на законнай аснове. Нам. начальніка Партызанскага РАУС В. Л. Красьнічэнка". У якасьці каментарыя да гэтай цытаты дададзім: "на законнай аснове" пасьля перажытага шоку і псіхалагічнага надлому малады інвалід мог бы стаць ці не канчатковым вар'ятам. На другі дзень пасля арышту Мікалай, 34-гадовы чалавек, пасівеў! Толькі маці ведае, колькі лекаў (дадатковых) спатрэбілася, каб хлопец зноў не патрапіў на лячэньне ў псіханеўралагічны дыспансер — у Навінкі. Лекі і грошы на іх — адна з галоўных праблемаў у сям'і і па сёньня.

Мікалай Белацэрковец здолеў перажыць гвалт дзяржаўнай машыны над сваёй асобай і не азлобіцца. Ён па-ранейшаму любіць людзей, як раней захапляецца футбольнымі баталіямі, майструе няхітрыя вырабы на сваёй працатэрапіі і застаецца простым, адкрытым чалавекам. Але ягоная маці заўважае, як убачыўшы постаць у міліцэйскай форме Мікалай зьмяняецца ў твары...

**Тацьцяна СЬНІТКА**

# Пад пагрозай зрыву

**Пачатак працы на Беларусі кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ**

Сітуацыя з захаваньнем правоў чалавека і канстытуцыйнай законнасьці, што склалася на Беларусі, усур'ёз зацікавіла Еўрапарламент. Менавіта таму сюды было вырашана накіраваць кансультатыўна-назіральную групу АБСЕ. Пачатак яе працы запланаваны на 27 лютага. Пакуль на Беларусь прыехалі трое членаў гэтай групы на чале са сп. Х.-Г. Вікам.

Да пачатку працы назіральнікаў прымеркаваны і прыезд цяперашняга старшыні АБСЕ, міністра замежных спраў Польшчы Браніслава Герэмека. Аднак на сёньня візіт гэты знаходзіцца пад пагрозай зрыву. Прычына — ускладненьне ўзаемаадносінаў між Беларусьсю і Польшай.

Беларусь нават адважылася на крайнюю меру — адклікала свайго пасла ў Польшчы В. Бурскага нібыта дзеля кансультацыяў. Афіцыйных версіяў гэтага рашэньня дзьве. Першая: увядзеньне Польшчай у аднабаковым парадку новага візавага рэжыму на беларуска-польскай мяжы, другая: "умяшальніцтва Польшчы ва ўнутраныя справы Беларусі".

Патлумачым, што маецца на ўвазе пад другім. Напачатку лютага ў Беластоку прайшоў польска-беларускі семінар "Дэмакратыя — супольная справа", у якім прынялі ўдзел дзеячы беларускай апазіцыі. Правядзеньне гэтага мерапрыемства і назваў беларускі МЗС "недружалюбным актам" і абвінаваціў польскі бок у дапамозе беларускай апазіцыі. Між тым наладжваньне падобных семінараў няўрадавымі, недзяржаўнымі арганізацыямі — справа звычайная і прыдзіркі беларускага боку могуць выклікаць адно — зьдзіўленьне неадэкватнасьцю прынятых мераў, якая, дарэчы, уласьціва найперш дыктатарскім рэжымам... Але як тады класіфікаваць шматлікія "наезды" на Беларусь прадстаўнікоў сёньняшняй расійскай апазіцыі, якія праводзяць тут свае зьезды, сходы, канферэнцыі , на якіх адкрыта заклікаюць да зьвяржэньня ненавіснага ім "рэжыму Ельцына"? Пры гэтым не было таго выпадку, каб прэзідэнт Беларусі афіцыйна не прыняў ці не прывітаў расійскіх "сяброў".

Зрэшты, сёньня ні для каго не сакрэт, што беларускія ўлады згадзіліся дапусьціць у краіну назіральнікаў АБСЕ менавіта пад ціскам Расіі (і Еўропы, зразумела), якой "саюзьнічак", дзе парушаюцца правы чалавека, нібы бяльмо на воку. Аднак ім вельмі хацелася б любымі сродкамі пазьбегнуць пастаяннай прысутнасьці ў краіне заходніх назіральнікаў. Вось і выдумваюцца нейкія "прычыны" дзеля зрыву пачатку працы кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ.

Такім чынам, візіт сп. Герэмека на Беларусь можа і не адбыцца. Рэальныя падставы дзеля гэтага сёньня штучна ствараюцца беларускім бокам. Пра гэта сьведчыць і адзін з апошніх брыфінгаў міністра замежных спраў Беларусі І. Антановіча. Ён заявіў, што хоча падчас візіту Б. Герэмека абавязкова абмеркаваць і прычыны ўскладненьня двухбаковых адносінаў Беларусі і Польшчы. "Інакш мэтазгоднасьці ў такім візіце мы ня бачым..." — падкрэсьліў ён. Між тым Б. Герэмек павінен наведаць Беларусь толькі як старшыня АБСЕ, а не як міністр замежных спраў Польшчы. І ў ягоныя планы не ўваходзіць нішто іншае, акрамя адкрыцьця пачатку работы кансультатыўна-назіральнай групы. І пазіцыя яго непахісная.

*Пошта*

# Імя ёсьць лёс

У адным з апошніх нумароў "Нашай Нівы" (№ 99, **рэд.**) погляд мой запыніўся на такой вось мясьціне ў артыкуле С.Паўлоўскага "Рэспубліка Радзіма". Цытую: "На маю думку, вольны выбар імя для дзіцяці ў Беларусі варта залічыць у фундаментальныя правы чалавека, якія яшчэ трэба будзе ўсталяваць".

Пішу ў вашае выданьне, якое займаецца абаронай правоў чалавека, дзеля таго, каб вы зьвярнулі ўвагу на гэтую праблему. Мажліва, на першы позірк, ня надта актуальную сёньня (страціўшы галаву — па валасах ня плачуць, так?), аднак вельмі важную. Свабода выбару імя свайму дзіцяці — неадменнае права кожнага бацькі. На жаль, права гэтае ў нас паўсюль ігнаруецца. Сам я з гэтым сутыкнуўся, калі захацеў назваць сваю дачку старым падвойным беларускім імем. Супрацоўніца ЗАГСу паслухала мяне, а потым дастала нейкую кнігу (краем вока я ўбачыў нешта кшталту "Словарь имен народов России"), пагартала яе, сказала: "Такога імя няма..." і адмовілася зарэгістраваць маю дачку...

Урэшце рэшт я свайго дамогся. І назваў сваю дачку гэтак, як хацеў (дарэчы, імя зусім звычайнае, ня буду называць, каб вас не расчараваць), але дзеля гэтага мне давялося прыкласьці нямала высілкаў.

Дык вось. Праблема свабоды выбару імя свайму дзіцяці на Беларусі была і ёсьць. Нам і тут сілай навязваюць чужыя традыцыі. Прашу "ПВ" не забывацца на гэты аспект нашага жыцьця, час ад часу згадваць яго, каб урэшце беларусы маглі называць сваіх дзяцей ня толькі спрадвечнымі бацькоўскімі імёнамі, але і... згодна сваёй добрай волі і фантазіі.

З павагаю

**Баркулаб ШЫХ**

*Гомля*

***P. S.*** Дарэчы, адной з прыкметаў таталітарызму ёсьць усярэдненасьць, шэрасьць, імкненьне нічым не вылучацца сярод іншых. У нас пануе гэта і ў імёнах. Вакол адно — Сашы, Валодзі, Сяргеі... Падумайце, як расквецілася наш сьвет, калі будуць яшчэ Руніты ды Волаты, Красачкі ды Вераскі...

**Б. Ш.**

# Падзеі Факты Каментарыі

(Пачатак на стар. 1)

*27 студзеня* — адбылося паседжаньне Кансультацыйнага Савета дэмакратычных партый, у якім удзельнічалі ўсе буйнейшыя апазіцыйныя партыі Беларусі. На паседжаньні прынята наступная пастанова:

"Мы, упаўнаважаныя прадстаўнікі палітычных партый Беларусі, ад імя сваіх арганізацый заяўляем аб нашай прыхільнасьці прынцыпам дэмакратыі, найважнейшым зь якіх зьяўляецца прынцып падзелу ўладаў.

Мы пацьвярджаем сваё непрызнаньне гвалтоўна ўведзенай "канстытуцыі" 1996 года, якая парушае гэты прынцып, дазваляючы прэзідэнту прызначаць кіраўнікоў і іншых адказных асоб іншых галінаў улады, аднаасобна выдаваць акты, якія замяняюць сабою законы.

У сувязі з гэтым мы заяўляем аб немагчымасьці ўдзелу партый, якія мы прадстаўляем, у любых выбарах у палату прадстаўнікоў, якая ў адпаведнасьці ў "канстытуцыяй" 1996 года ня мае ніякіх паўнамоцтваў".

*25 студзеня* — адбыўся сход каля 100 жыхароў г.Слоніма Гродзенскай вобласьці, якія прынялі рэзалюцыю з патрабаваньнямі аднавіць выхад газеты "Свабода", выпусьціць з турмы сяброў Народнага Фронту непаўналетняга В.Лабковіча, а таксама А.Шыдлоўскага і В.Кабанчука, аднавіць дзеяньне Канстытуцыі 1994 г. Асобным пунктам сход запатрабаваў правесьці аб'ектыўнае і поўнае расьсьледваньне па справе гібелі ў слонімскай міліцыі маладога рабочага, бацькі двух дзяцей Алега Дэйкі.

*31 студзеня* — Мечыслаў Грыб былы спікер ВС 12 скліканьня у "Народнай Волі" ацаніў указ прэзідэнта 655 "Пра пенсіённае забесьпячэньне асобаў, якія маюць асаблівыя заслугі перад народам Беларусі" як чарговае парушэньне правоў чалавека ў Беларусі. Сярод асобаў, якія займалі аднолькавае службовае становішча, указ вылучае толькі тых, якія зараз лаяльна ставяцца да палітыкі прэзідэнта. Больш таго, М.Грыб абвінаваціў улады ў пастаянным падслухоўваньні тэлефонных размоў, ускрыцьці лістоў і нават віншавальных паштовак.




*У канцы студзеня* — актывісты віцебскай рады БНФ, рэдактар газеты "Выбар" Б.Хамайда і Ю.Мароз правялі пікет, на якім распаўсюджвалі дэмакратычную прэсу. Яны былі затрыманыя міліцыяй і суддзя Чыгуначнага раёну С.Туфан прысудзіла кожнаму па 10 сутак зьняволеньня.

Пасьля вынясеньня ім прысуду, лідэр Віцебскай суполкі БНФ У.Плешчанка арганізаваў пікет у падтрымку зьняволеных сяброў. У пратаколе затрыманьня ён напісаў, што не падпарадкоўваецца ўказам і дэкрэтам, выдадзеным Лукашэнкам, а дзеіць на грунце Канстытуцыі 1994 г. Тая самая судзьдзя С.Туфан асудзіла У.Плешчанку на 10 сутак зьняволеньня.

*У канцы студзеня* адбылася паездка вядомых беларускіх пісьменьнікаў у Гродню, дзе пры дапамозе гарадской рады Беларускага Народнага Фронту і Таварыства Беларускай Мовы былі наладжаныя шматлікія сустрэчы з вучнямі, студэнтамі і дарослымі жыхарамі Гродні. Але адміністрацыяй горада Скідаль і вёскі Капцёўка, гэтыя сустрэчы былі неабгрунтавана забароненыя.

*У студзені* яшчэ адзін грамадзянін Беларусі папрасіў палітычнага прытулку ў Чэхіі. Гэта — 26-гадовы менчук Сяргей Градоўкін. Ён выпускнік юрыдычнага факультэту менскага універсітэту, адзін з заснавальнікаў "Задзіночаньня беларускіх студэнтаў" і старшыня выканкаму Партыі аматараў піва. Нагадаем, што летась эміграваў у Польшчу і папрасіў палітычнага прытулку пасьля колькімесячнага знаходжаньня ў турме, старшыня гэтай партыі А.Рымашэўскі.

*На пачатку лютага* Вярхоўны суд РБ пацьвердзіў рашэньне Ленінскага раённага суда г. Гродна і не задаволіў патрабаваньне Ю. Мацко, бацькі навучэнкі СШ №10 Агаты Мацко пра працяг навучаньня ягонай дачкі на беларускай мове. А. Мацко вучылася ў беларускім класе, які быў пераведзены на рускую мову навучаньня. Адміністрацыя школы адмовіла бацьку дзяўчынкі, які настойваў на тым, каб ягоная дачка працягвала навучаньне на роднай мове, і гэтым самым парушыла і Канстытуцыю РБ і Закон аб мовах РБ. Тым ня меньш суд падтрымаў палітыку адміністрацыі школы, накіраваную на русіфікацыю навучаньня, якая апошнім часам актыўна праводзіцца ў сферы адукацыі ў Беларусі.

*2 лютага* — у Віцебску арыштаваны мастак Віктар Савіцкі, у якога, як быццам бы знайшлі некалькі адзінак зброі. Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі дружна абмеркавалі гэты выпадак, абвінаваціўшы апазіцыю ў экстрэмізме. У агульнай атмасферы нагнятаньня страху ў грамадстве гэты выпадак падаецца сфабрыкаваным спецслужбамі для ачарненьня дэмакратычнай апазіцыі ў вачах народа.

*3 лютага* — пад час сустрэчы з грамадскасьцю г. Гродна пасла ЗША ў Беларусі Дэніэла Спеккарда з залы, дзе яна адбывалася, і куды прапускалі па зацьверджаных уладамі сьпісах, быў выведзены журналіст незалежнай газеты "Навіны" ("Свабода") С. Астраўцоў. Яму абвясьцілі, што права на асьвятленьне сустрэчы маюць толькі журналісты афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі.

*4 лютага* — пасьля мітынгу прадпрымальнікаў у г. Лідзе Гродзенскай вобласьці, міліцыяй быў затрыманы старшыня Лідзкага незалежнага прафсаюза Валеры Сьліўкін. На яго быў складзены пратакол і справа будзе перададзеная ў суд.

*6 лютага* — адбылося апісаньне маёмасьці ў выконваючага абавязкі старшыні БНФ "Адраджэньне" Лявона Баршчэўскага, які быў аштрафаваны за ўдзел у апазіцыйным шэсьці на 30 мільёнаў рублёў.

*7 і 8 лютага* — у Наваполацку маладзёжная суполка Наваполацкай Рады БНФ "Адраджэньне" праводзіла пікет супраць зьняволеньня па палітычных матывах В. Кабанчука, А. Шыдлоўскага, В. Лабковіча.

*8 лютага* — у Менску на плошчы Я. Коласа адбыўся пікет супраць парушэньня правоў чалавека ў Беларусі. Праводзіў пікет, у якім удзельнічала некалькі сотняў чалавек Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне". Пад час правядзеньня пікету праходзіў збор подпісаў за вызваленьне з турмы палітычных вязьняў В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага, В. Кабанчука, а таксама збор грошай у іхнюю падтрымку.

*10 лютага* ў Менску органамі КДБ затрыманы вядомы беларускі прадпрымальнік Андрэй Клімаў. Яму інкрымінуецца стандартны набор "злачынстваў", знаёмы нам па арыштах іншых бізьнесменаў. Аднак аглядальнікі называюць у якасьці асноўных і іншыя прычыны арышту. Мы памятаем, што А. Клімаў быў выдаўцом апазіцыйнай рэжыму і таму забароненай "Газеты Андрея Климова", а таксама дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня і адным з тых, хто ня толькі не падтрымаў "ініцыятывы" А. Лукашэнкі, але і выступіў з рэзкай крытыкай яго.

Дакумент без каментарыяў

# "Супраціўленьня не аказваў..."

ПАСТАНОВА

8 красавіка 1997 года судзьдзя Злобіч Т. К. Цэнтральнага раёну горада Менску разглядзеў матэрыялы, якія паступілі ад начальніка Цэнтральнага РАУС на ДАВЫДОЎСКАГА Уладзіміра Міхайлавіча, 16.03.1964 года нараджэньня, ураджэнца горада Менску, які жыве ў г. Менску..., працуе журналістам "Радыё 101,2" (вул. Рэвалюцыйная, дом 7), жанатага, маючага 1 дзіця на ўтрыманьні, раней не судзімага, да адміністрацыйнай адказнасьці не прыцягваўся, заслухаўшы яґоныя тлумачэньні і паказаньні сьведак П. Быкоўскага, І. Халіп, В. Аляксандровіча,

УСТАНАВІЎ:

Давыдоўскаму У. М. ставіцца ў віну, што 02.04. 1997 года ў 19 гадзін 20 хвілін каля пасольства РФ па вул. Старажоўскай, 48 (фактычна па вул. Старавіленскай 48) г. Менску ён прыняў удзел у несанкцыянаваным шэсьці, ішоў па праезджай частцы вул. М. Багдановіча, вул. Камуністычнай г. Менску з перакрыцьцём руху транспарту, гучна крычаў, сьвістаў, на неаднаразовыя патрабаваньні спыніць шэсьце не рэагаваў, чым парушыў п. 10 Дэкрэта №5.

У судзе Давыдоўскі У. М. віну ў выстаўленым яму правапарушэньні не прызнаў, патлумачыў, што працуе журналістам "Радыё 101,2". Па заданьні БАЖ (Беларуская асацыяцыя журналістаў) 02. 04. 1997 года з 17 гадзінаў знаходзіўся побач з мейсцам правядзеньня мітынгаў камуністаў і БНФ ля парку імя Горкага і ля Опернага тэатру РБ у Менску. Ад тэтра з журналістам газеты "Белорусский рынок" Вадзімам Аляксандровічам па тратуару дайшоў да будынку суда Цэнтральнага раёну г. Менску, дзе сустрэўся з Паўлам Быкоўскім, журналістам той жа газеты, і разам зь ім па пераходу праз вул. Камуністычную пайшоў у двор д. 14-А па вул Камуністычнай. Там стаяла некалькі журналістаў: Быкоўскі, Халіп І., 2 журналісты з фотаапаратамі і яшчэ 2-3 журналісты.

Адступаючы ўсе разам, група журналістаў аказалася ля дома 34 па вул. Камуністычнай, метрах у 5-7 ад дома. На вачах ва ўсіх, супрацоўнікі міліцыі ў блакітнай камуфляжнай уніформе, некаторыя ў касках, пачалі зьбіваць дэпутата і журналіста Шчукіна. Да іх падбеглі фотакарэспандэнты, пачалі фатаграфаваць, І. Халіп з бацькам, Халіпам В. і Быкоўскім П., спрабавалі адвесьці Шчукіна.

Ён, Давыдоўскі, заставаўся ў метрах пяці ад іх.

У гэты час да яго, Давыдоўскага, справа падыйшлі супрацоўнікі міліцыі і адзін зь іх нанёс удар гумавай палкай па дыктафону, у які ён, Давыдоўскі гаварыў, потым удвох сталі біць яго па галаве, зьбілі на зямлю, хоць ён казаў ім, што ён журналіст. Зьбівалі тры супрацоўнікі міліцыі, ён не меў ніякой магчымасьці аказаць ім супраціўленьне, бо ляжаў на зямлі. Затым яго пасадзілі ў а/м, завезьлі ў Цэнтральны РАУС, дзе склалі пратакол, а затым даставілі ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік на вул. Акрэсьціна, дзе ён заявіў, што яму дрэнна, аднак меддапамогі яму не аказалі.

02. 04. 1997 года ён выконваў свае службовыя абавязкі, нічога не парушаў, лічыць, што супрацоўнікі міліцыі перавысілі свае паўнамоцтвы, нанесьлі яму цялесныя пашкоджаньні, у сувязі з якімі ён быў агледжаны ва ўрача.

Сьведка Халіп І. В., суду засьведчыла, што 02. 04. 1997 году ў 18-19 гадзінаў знаходзілася па заданьні рэдакцыі ля мейсца мітынгу ля Опернага татра ў Менску. Давыдоўскага ўбачыла ля д. 34 па вул. Камуністычнай у г. Менску, побач з групай журналістаў. У гэты час супрацоўнікі міліцыі пачалі зьбіваць журналіста Шчукіна, і яна са сваім бацькам Халіпам В. Г. і іншымі журналістамі падбеглі да іх, пачалі падымаць Шчукіна. У гэты час зьбілі з ног яе бацьку і пачалі біць, нанесьлі ўдары і ёй.

Яна бачыла, як супрацоўнікі міліцыі наносілі ўдары таксама Давыдоўскаму У., зьбілі яго з ног. Потым яе і яе бацьку, Шчукіна і Давыдоўскага пасадзілі ў а/м і павезьлі ў Цэнтральны РАУС, дзе ў яе папрасілі прабачэньня і адпусьцілі, а яе бацьку памясьцілі ў бальніцу, дзе ён і зараз знаходзіцца. У а/м Давыдоўскі быў вельмі бледным, было відаць, што яму вельмі дрэнна.

Сьведка Быкоўскі П. патлумачыў, што 02. 04. 1997 г. па заданьні рэдакцыі ён асьвятляў ход мітынга, каля 19 гадзінаў, бачыў, як ля дома 34 па вул. Камуністычнай у г. Менску супрацоўнікі міліцыі цягнулі Давыдоўскага У., які супраціўленьня не аказваў.

Сьведка Аляксандровіч В. Э. засьведчыў, што 02. 04. 1997 года па заданьні рэдакцыі знаходзіўся каля мейсца правядзеньня мітынгу БНФ ля Опернага тэатра ў г. Менску, сустрэў знаёмага журналіста Давыдоўскага У., зь якім разам прайшоў ад тэатра па тратуару вул. М. Багдановіча да суда Цэнтральнага раёну г. Менску, дзе Давыдоўскі на зялёнае сьвятло перайшоў вул. Камуністычную ў г. Менску, а ён перайшоў таксама на зялёнае сьвятло вул. Багдановіча і пайшоў (ён, Александровіч В. Э.) да Расійскага пасольства па вул. Старавіленскай.

Давыдоўскі В. не крычаў, не сьвістаў, выконваў сваю работу.

Адвакат Доўнар Н. Н. прасіла спыніць адміністрацыйную справу ў адносінах да Давыдоўскага У. М., паколькі ў ягоных дзеяньнях няма складу правапарушэньня.

Аналізуючы прыведзеныя доказы, лічу, што справа падлягае накіраваньню пракурору Цэнтральнага раёну горада Менску для праверкі доказаў Давыдоўскага У. М. аб незаконных дзеяньнях супрацоўнікаў міліцыі ў адносінах да яго.

Кіруючыся арт. 233 КоАП РБ, судзьдзя

ПАСТАНАВІЛА:

Адміністрацыйную справу ў адносінах да Давыдоўскага У. М. накіраваць пракурору Цэнтральнага р-ну г. Менску для рашэньня пытаньня аб узбуджэньні крымінальнай справы па арт. 167 КК РБ.

*Судзьдзя: подпіс.*

***P. S.*** Па сваёй традыцыі мы не каментуем надрукаваныя дакументы. Аднак, дзеля ўдакладненьня сітуацыі прапануем чытачам урывам зь іншага дакумента — заявы У. Давыдоўскага:

"...Некалькімі ўдарамі ў галаву я быў звалены на зямлю. Побач аказаліся яшчэ двое міліцыянераў, якія пачалі мяне біць дубінкамі і нагамі, наносячы ўдары па галаве, па сьпіне, па нырках і ў пахвіну... Потым мяне заштурхалі ў машыну (паверх ляжачага на падлозе і сцякаючага крывёю драматурга В. П. Халіпа). Праз хвіліну-дзьве паверх мяне закінулі журналіста Шчукіна, потым журналістку газеты "Имя" Ірыну Халіп... Пазьней, згодна медыцынскага агляду, у мяне зафіксавана чэрапна-мазгавая траўма, шматлікія пашкоджаньні і драпіны (на цяперашні момант зафіксавана і пашкоджаньне асобных унутраных органаў)..."

***P. P. S.*** І яшчэ адное ўдакладненьне: за мінулы год ніводзін супрацоўнік міліцыі з тых, што ўдзельнічалі ў зьбіваньні людзей падчас шэсьцяў і мітынгаў, не пакараны...



*На здымку: журналіст В. Шчукін ужо без прытомнасьці...*

# У спратах "Валадаркі"

## "Хата"

Я ляжаў на нарах і глядзеў на шэрыя, шурпатыя сцены. Ішлі трэція суткі майго знаходжаньня ў "адстойніку". Не падобныя на першыя і другія толькі тым, што мяне больш нікуды не цягалі. Але адзінота стала невыноснай.

Я ведаў свой прысуд, ведаў што наперадзе яшчэ "асуждзёнка", этап, калонія — гэта крыху суцяшала. Аднак не пазбаўляла пакуль адзіноты, ад якой можна было звар'яцець... І таму — я ўзрадваўся, калі ў сцяне за вузенькімі кратамі, у якіх мацавалася лампа, зьявілася мыш. Маленькая шэрая істота караскалася па кратах, спрабуючы дастаць скарынку хлеба, якая тырчэла ў верхнім куце. Я зразумеў, што мыш прыручаная, адламіў кавалак хлеба і пачаў карміць яе. Дарэчы, мне і ў далейшым ня раз даводзілася падкормліваць камерных жывёлак, толькі ўжо не маленькіх мышэй, а вялізных пацукоў, і не па ўласным жаданьні, а каб галодны пацук не адгрыз нос, ці вушы...

Нарэшце, у другой палове дня мяне вывелі і адканваіравалі на склад. Чырвонатвары прапаршчык, які для сувязі слоў выкарыстоўваў выключна мат, выдаў мне, неабходныя рэчы: брудны. схуднелы матрац; падушку, набітую нейкімі анучамі, "зэчку" (алюмініевы кубак), "вясло" (лыжку).

Па вузкім калідоры мяне правялі ў камеру для асуджаных. Паўпадвальнае памяшканьне, 18 кв. м., акенца з кратамі і жалезнымі жалюзі на ўзроўні зямлі. Справа ад уваходу — "дальняк" (прыбіральня), уздоўж сценаў — "шконкі" (жалезныя двух'ярусныя ложкі, усяго іх было 14), насупраць "абшчак" (стол) і вузенькі на чатыры крокі праход. Усё начыньне наглуха зварана між сабою жалезнымі трубамі.

Я стаў сямнаццатым жыхаром гэтай "хаты". У асноўным тут былі "хімікі" і вольныя пасяленцы, асуджаныя за дробныя крадзяжы, аварыі, махлярства. Але ж пазней пачалі закідваць да нас і з больш цяжкімі злачынствамі — нават тых, хто сядзеў за забойства. Гэта грубае парушэньне турэмнага рэжыму, як і тое, што ў камерах не хапае мейсца ўсім, і некаму даводзіцца спаць па чарзе — адзін ноччу, другі ўдзень.

"Валадарка" — гэта не тэатр, але ж прадстаўленьні раз на месяц паказваюць. Называюць іх тут "маскі шоў". Нечакана ў камеру ўрываецца група людзей, апранутых у камуфляж з чорнымі маскамі на тварах. Размахваючы дубінкамі яны пачынаюць выкідваць ўсіх на прадол. Дастаткова крыху прамарудзіць, як на цябе пасыплюцца ўдары, боль ад якіх падоўгу не праходзіць. Пасля такога шмону адшукаць уласныя рэчы цяжка, больш таго некаторыя наогул зьнікаюць.

Акрамя законаў рэжыму, напісаных адміністрацыяй, ёсць закон асаблівы — "турэмны". І калі воляй лёсу ты апынуўся ў гэтых сценах, то абавязкова павінен яго прытрымлівацца. У асноўным гэта манера паводзінаў і правілы гігіены. З першага дня знаходжаньня ў "асуждзёнцы" да цябе прыглядаюцца, распытваюць: "ці ўсё нармальна ў цябе з мінулым" ці не з'яўляешся ты стукачом альбо "пеўнем". Калі ты нармальны мужык і апынуўся тут упершыню, табе патлумачаць, як не патрапіць у "касяк" (тое, што нельга рабіць). Але ж, як і ў кожным калектыве, нехта заўсёды імкнецца быць галоўным. заняць лепшы "шканар", даць пару цыгарэтаў і адмовіцца прыбіраць камеру (дарэчы, гэтая прыборка лічыцца звычайнай, "нармальнай" справай). А ўсё астатняе залежыць цалкам ад цябе.



Калі нехта патрапіў сюды з падсьледчай "хаты" ці сваімі паводзінамі даў падставы ў нечым засумнявацца, могуць праз турэмную пошту даслаць ў ягоную былую "хату" "мулю" (ліст) і атрымаць адказ. Для гэтага робяць "канацікі" (распускаецца швэдар альбо шкарпэтка), "прычал" (крук са шчыльна скручанай газеты). Пры дапамозе такога прыстасаваньня праз вузенькія шчыліны закратаванага вакна камеры звязваюцца між сабою. І пасля 22. 00 пачынаецца "дзёрганьне канатаў". Гэтак можна перадаць гарбату, цыгарэты і невялікія рэчы. Галоўнае пры гэтым, каб не заўважылі "пошту" мянты.

Мне падабаўся гэты час сутак. Прынамсі, існавала нейкая камунікацыя, і час, здавалася, ідзе хутчэй. Газеты паступалі да нас нерэгулярна, у асноўным "Советская Белоруссия". Два разы на месяц давалі кнігу пра подзьвігі камуністаў з на траціну выдранымі старонкамі. Адсутнасць туалетнай паперы замянялася кнігамі і газетамі. Тым, хто ня курыць, карыстацца прыбіральняй можна толькі з "факелам" (падпаленая газета) ў руцэ. У камеры даваляецца мець тэлевізар. але ўзнікае праблема. Па-першае, як паведаміць на волю, каб яго прынесьлі. Мне даводзілася тры разы падаваць заяву на імя начальніка, каб дазволілі напісаць ці патэлефанаваць дамоў. Але ж усё безвынікова. Па-другое, невядома, колькі цябе тут пратрымаюць: два тыдні ці тры месяцы. Асноўнай "развлекалаўкай" служыць гульня ў "мандавошку" (косьці) ці шашкі, зробленыя з хлебнага мякішу. Раз на дзень выводзяць на прагулку, але ж задавальненьня ад яе мала. Па вузкім прадоле цябе гоняць быццам скаціну, на кожным куце стаяць мянты з сабакамі. Дастаткова пры гэтым азірнуцца, як атрымаеш дубіналам. На нейкі час усіх замыкаюць у дворыку з высокімі сьценамі — ён можа быць нават меншы за камеру. Зьверху краты, аблпеценыя калючым дротам. Па ўсім перыметры жалезны казырок. Да сярэдзіны лютага, пакуль не прыйшоў на "Валадарку" новы начальнік, на прагулку вадзілі толькі жадаючых. Новы начальнік выдаў загад, па якім з камеры абавязаны ісьці альбо ўсе, альбо ніхто. І як быць хворым, тым, у каго згнілі ці папухлі ногі, альбо паднялася тэмпература. А захварэць у гэтых умовах даволі проста: перапоўненая камера, адсутнасьць вентыляцыі і вельмі высокая вільготнасьць, ня кажучы ўжо пра розных шкодных казюрак (клапы, тараканы, блыхі, вошы, мурашы). Раз у дзесяць дзён водзяць у лазьню, здаюць вопратку ў пражарку, але ж чыстае спадняе на зьмену мае ня кожны. "На бальнічку" кладуць толькі ў цяжкім стане. У асноўным лечаць нейкімі невядомымі мазямі з вялікіх банак, назвы якіх зэкі вызначаюць па колеры.

Штодзень кожнаму выдаюць твой "палажняк": "карабель" цукру, чвэртку белага і палову чорнага хлеба, ад якога потым страшэнна пучыць жывот. Зраніцы — чарпак сечкі, ў абед — боршч з пярлоўкай, увечары могуць парадаваць юхой зь селядца альбо чорнай перамерзлай капустай. Гэтай пайкі хапае, каб чалавек не памёр з голаду. У асноўным усе разьлічваюць на перадачы з волі. У вельмі цяжкім становішчы тыя, да каго яны не прыходзяць. Такіх хапае, прынамсі такое здарылася з маім сукамернікам. Малады хлопец з вышэйшай адукацыяй, з ягоных слоў, меў уласную перспек-тыўную фірму, за дробны крадзёж быў асуджаны да трох гадоў "хіміі". Пакуль сядзеў пад сьледствам атрымліваў шыкоўныя перадачы, піў добрую гарбату, курыў цывільныя цыгарэты, занадта ганарыўся, выдаючы сябе за вялікага знаўца турэмных паводзінаў. Калі патрапіў у "асуждзёнку", перадачы раптоўна зьніклі, на "сьвіданку" ніхто не зьявіўся. Спачатку знаўцу за пару цыгарэтаў пачалі запрашаць "зрабіць аперацыю на целе" (ускрыць і замазаць фурункул), потым у куце на "шканар" (ложак) павесілі фіранку і пачалі запрашаць, каб зрабіў масаж. Аднойчы зранку я заўважыў, што ягоны матрац і ўласныя рэчы апынуліся на падлозе каля "дальняка", яму кінулі "шлёмку" (міску) з-пад маргарыну "RAMA" і назаўсёды забаранілі дакранацца да "абшчака". Яго "апусьцілі". З гэтага моманту да яго было забаронена ставіцца як да чалавека.

**Мікола КАЧАН**

*(Працяг будзе)*

*Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.*

**Права на волю. Бюлетэнь Камітэту ў абарону правоў чалавека ў Беларусі "Вясна-96". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**

*У нумары скарыстаны малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Камітэта "Вясна-96"*